# Некалькі слоў да бацькоў-беларусаў.

Атсутнасьць беларускай школы і немагчымасьць вучыць ў ёй сваіх дзетак, родзіць у сьвядомых бацькоў-беларусаў балючае пытаньне: дзе-ж іх дзеткі маюць навучыцца беларускай пісьменнасьці! — Адказ можа быць адзін: калі няма школы, калі няма дзе вучыцца беларускаму дзіцяці, дык яно павінна вучыцца у хаце, павінна вучыцца само. І вось, каб у дзіцяці была ахвота да тамавучэньня, трэба даць яму цікавую і добрую кніжку. У гэтым выпадку дзіцячая часапісь вельмі патрэбна, бо яна ёсьць тым органам, які павінен даць ахвоту да самавучэньня. Вучыцца самавукам па школьных падручніках—трудна, дзеля таго, што даўгую ды аднаго зьместу кніжку дзіцяці адразу цяжка асіліць і яно перагледзеўшы малюнкі зазвычай спачатку набіраецца ахвоты вучыцца, а пасьля кніжка яму абрыдне і яно не дацягнуўшы да палавіны — кідае. Дып трэба даць дзіцяці такую кніжку якая была-б заўсягды новай, заўсягды ўзбуджала цікавасьць і магла быць ахвотна прачытана спачатку да канца. Гэтакай кніжкай і ёсьць „Заранка“.

Дык кожны сьвядомы Беларус, які хоча дапамагчы сваім дзеткам самавукам здабываць родную асьвету, павінен мець у сваей хаце дзіцячую часапісь „Заранка“.

*Праметэй.*

---

*Прыпамінаем, што першы квартал гэтай кніжкай „Заранкі“ кончыцца. Далей будзе атрымліваць яе той, хто прышле грошы за 2-гі квартал.*

*Пасьпяшыце прыслаць падпіску!*

**Рэдакцыя.**

## ЛІСТ

### Маладога Дзядка да беларускіх дзетак.

Мілыя дзеткі!

Надта мне хочацца пазнаёміцца з вамі бліжэй, і вось на гэтым мейсцы я пішу да ўсіх вас гэтыя некалькі слоў. Завуся я Малады Дзядок. Малады таму, што яшчэ ня стары; а Дзядок таму, што старэйшы за вас. Аднак скажу: дзетак я вельмі кахаю і хачу з імі часта гутарыць. Дзеля таго, што мы маем пекную кніжачку „Заранка“, дык я пастараюся вам апавядаць сякія-такія баечкі, вершыкі, казачкі, рысаваць малюначкі ў „Заранцы“. Калі хто з вас мо' захоча мне штось напісаць, дык пішэце ў паштовую скрынку „Заранкі“. Буду вельмі рады. Спадзяюся, што нашая Паважаная Рэдактарка не адмовіць мейсца ў скрынцы. Жыву я ад вас надта далёка, далёка, аднак ня забываюся аб вас і люблю. Палюбеце-ж і вы мяне й залічыце ў свае добрыя прыяцелі Маладога Дзядка. Чакаю адказу на мой ліст.

А пакуль што бывайце здаровенькія!

Кахаючы Вас
Малады Дзядок.

2 траўня 1927 г.

## Наша пошта.

**Зоні,** Валерцы, Косці, Адольфіне і Стефусю **Войцікавым** з вёскі Вярэнькі. Сабраныя праз Вас казкі „Заранка“ атрымала і вельмі за іх дзякуе. Дзьве з іх друкуюцца ў гэтай кніжцы ў аддзеле „Працы нашых чытачоў“. — Мо каторае з вас прышле нам апісаньне сваей вёскі або мястэчка Пархвенава?—

**Янку Патачовічу з вёскі Рачканы**. Разгадка прыказкі добрая, а катоў было толькі чатыры. Тваей загадкі зьмясціць ня можам, бо ты не прыслаў нам разьвязкі; прышлі, тады зьмесцім.

**Школьнікам—падпісчыкам з вескі Аханова**. „Заранка“ Вам высланая з першай кніжкі і будзе высылацца да канца другога кварталу. Вы першыя паказалі як супольнымі сіламі нават дзеці-школьнікі могуць сабраць патрэбныя грошы і выпісаць сабе часапісь адразу на паўгоду. Мо за вашым прыкладам незадоўга пойдуць і другія вёскі. — Пішэце ў „Заранку“ лісты: напішэце як вам „Заранка“ падабаецца і што вас у ёй найбольш цікавіць.

---

Рэдактар Выдавец **Л. Войцікава**. Друк. ім. Фр. Скарыны.





# Мушка зелянушка і камарык—насаты тварык.

Блізка рэчкі Самацечкі камары таўкуцца,
І «таўкачыкі» сьпеваюць і у скокі тнуцца:



«Гэй, гоп, таўкачыкі,
Гэй, гоп, асінавы,
Ды работы Максімавы».

А Максім ляжыць на траўцы, сонна пазірае,
Камарок за камарочкам да яго шыбае,
І песьняр з усіх найлепшы ўжо зьвініць ля вуха,
Як камарыка няўмысьне загубіла муха.

## I.

Захісталася сасонка баравая,
Затужыла дзяўчынка маладая,
Жартаўлівая пяюшка, сакатушка,
А па імені — мушка зелянушка:
— Ой, чаму-ж ды не судзілася мне долі,
Што мяне і не сваталі ніколі.
А пасагу прабагатага я маю:
Куст шыпшыны, ад краю і да краю,
Шчэлка ў яблыні — пры ветры каб хавацца,
Ліст альховы — на ночку пакрывацца,
Ды да краю поўны мёдам кацялішча
З жалудовай вялізнай скарлупішчы.
Калі гэты мёд у місачку кладзецца,
Ажна сьліна у роце набярэцца».

Як пачуў тыя жаласьці камарык —
Паскрабаў і насочак ён, і тварык:
— «А чаму бы мне ды з ёй не пажаніцца?
Пэўна, пойдзе, каб болей ня журыцца.
Хоць насаценькі я, шэры, хударлявы.
Дык у скоках затое-жа рухавы...»
І схапіўся камарочак прыбірацца,
Каб ля мушкі — пяюшкі увіхацца.

II.

Прыляцела мушка да хаты —
Аж у яе камарык насаты.
Сватоўе — хрушчы усседаюць,
З бацькам-маткай штось размаўляюць:
—«Мы стральцы, шукаем куніцу,
—«Ня куніцу, але дзявіцу».
Гаманілі боляй гадзіны
Дый гавораць так да дзяўчыны:



—«Ці да смаку госьць наш багаты?»
—«Запытайце у мамы і таты».
Тут гарэлкай ўсё змацавалі.
А пасьля і заручын даждалі.
Браў жаніх ад мушкі — дзяўчыны
Дарагі ручнік з павучыны,
Што яна на траўцы сьцяліла
І на ясным сонцы бяліла.
У нядзелю будзе вясельле, —
Захадзіў камар, як з пахмельля;
І пяе і скача пациху,
Ды як сыпне ўраз «шырсьцяніху»:
«Шырсьцяніха, шырсьцяніха мая
Пакахала камара гультая.
А камар не зважае на яе,
Толькі лётае ды песьні пяе».

III.

Загудзела, расшумелася дубрава:
Аб вясельлі у дубраві стала слава.
Як вянок на муху свацейкі надзелі,
Усе навокал аж вочы праглядзелі.



А калі бацьком журылася дзяўчына,
Аж заплакала жаноцкая радзіна:
«Укланяюся татачцы і матачцы,
Калі ўжо апрыкрыла ім ў хатачцы.
І чаму-ж вы мяне гадавалі
Ды ў чужую сямейку аддалі?»
Ў каравайніцы вулітак запрасілі
І яны дзяжу на продзіў замясілі.
Авадзень быў камаровым старшым дружкай
І рассыпаўся дробным макам перад мушкай.
Матылі — баяры, пчолачкі — баяркі
Спрытны, шпаркі, асабліва як да чаркі.
А найстаршая баярачка чмяліха
Так сьпявала, аж баяр пабрала ліха:



«Ой, багаты баяры, багаты,
Ды забыліся ўзяць грашаняты.
Хоць не шмат грашанят яны маюць,
Дык затое свой гонар трымаюць:
Хто капейку дае — грыўняй лічэ яе,
А хто грыўню паклаў—што рубля даравау!»
А як сыпнулі — урэзалі музыкі,
Дык узьняўся разам гоман там вялікі.
Чмель пузаты на басолі гучна грае,
А на йскрыпцы ёмка пчолка падсекае.
І знайшоўся мушанёнак нейкі малы,
Што званіў такі някепска у цымбалы.
Лоўка конікі у скоках выцінали,
Ў гару стрыбалі, звонка падпявалі:

«Камары скакаць
Выракаюцца,
Ногі доўгія —
Паламаюцца».



Гэтак скачуць — хто патроху, хто памногу.
Нейкі конік адтаптаў чмялісе ногу.
Госьці спорна п'юць — ядуць ды размаўляюць,
А музыкі граюць, дыхту заўдаваюць.
Умела муха на вясельле запрашаці,
Ды над тое лепі ўмела частаваці,
Ўсяго стаяла досыць для гасьціны:

Нават мёд быў і чмяліны і пчаліны.
Хрушч вялізны так гарэлкі насмактаўся,
Што зваліўся ды ў куточку высыпаўся.
Восы ў уборах жоўтых з жоўтымі стракамі
Проста елі мушку злоснымі вачамі.
А яна ля мужа скромненька сядзела
І зялёненькай спаднічкай зіхацела.



Мураўёна нізка звесіла галоўку.
Бо занадта зацягнулася ў шнуроўку.
Ды як скрыкнула, як ахнула раптоўна:
У каплі дожджыку танула мураўёўна.
Усё сьцямнела, каплі шпарка застукалі,
Ў дуплё, дзе мушка жыла, пападалі.
Пахаваліся ўсе госьці у куточкі:
Так спынілася вясельле сярод ночкі.
А на заўтра ўсе, як толькі ўсталі зраньня,
Дык пашлі да камара на баляваньня.
І былі яшчэ нарэшці перазовы,
Каб не стала аб радзіну кепскай мовы.

IV.



Абляцелі кветачкі
Не ў пару.
Невясёла шэраму
Камару.
Як пачаў ён параю
З мушкай жыць—
Давялося беднаму
Патужыць.
Ня умее мушачка
Працаваць,
Толькі ўмее з хлопцамі
Жартаваць.
Ані выткаць кросенкі
Ані шыць,
Ані стравы хараша
Наварыць.
Паштурхаў камарычак
Галаву:

«Як я з гэткай жонкаю
Пражыву? —
Дзе я вочы, брацейкі,
Меў свае,
Як сабе за жоначку
Браў яе?“
Паляцеў ён плакацца
У лясок,
Сеў на дуб зялёнянькі
Пад лісток.
Пахіліў галованьку,
Уздыхнуў,
Песьню сумна, жудасна,
Зацягнуў:



«Выйду ў поле, ды разважу тое гора,
Гэй, гаротнае, маркотнае!
Ты шырока, маё полейка,
Ад кусточка да кусточка разлегаешся,
Ты глыбака, сэрцэ, краешся.
Дзе цяпер я сьмерць сваю спаткаю:
Ці у моры, ці у рэчцы, ці у ставочку,
Што капытам пры дарозі быў прабіты,
І да краю буйным дождыкам наліты?»

V.

— Што за шум ў бары учыніўся?
— А камарык там з дуба зваліўся.
Грымнуў ён на зямлю з высакосьці
І пабіў — паламаў сабе косьці.
Цяслы дошкі з дубоў пілавалі,
Габлявалі, труну змайстравалі,
Ўсю чырвонай кітайкай аббілі,
Ўстужкай чорнай з краёў адтачылі.
Гэй, кладуць камара ў дамавіну,
Сазываюць сяброў і радзіну.
Камары над труной затрубілі,
Сьветлячкі лепі зорак сьвяцілі.
— Вы паціху, музыкі, зайграйце,
Маё сэрца у край не ўражайце



Горка мушка — ўдава галасіла,
Скорай сьмерці у Бога прасіла:
«Мой мужочак, а мой камарочак,
Ты падай мне з труны галасочак.
Ах, ніхто над табой не заплача,
Толькі хмарачка дробнымі дажджамі
Толькі мушачка горкімі сьлязамі».
Палажылі дамоўку на мары,



Панясьлі праз лугі ды папары.
Ля дарогі магілу капалі
І ў ёй камара пахавалі,
У сырую зямельку зарылі,
Зьверху насып вялікі зрабілі.
Людзі добрыя шляхам мінаюць,
Шапкі нізка здыймаюць, пытаюць:
— «Ня іначай, вяльможны мандроўнік —
Генерал, ці маёр, ці паўкоўнік?»
— «Не, ляжыць тут камар-камарочак,
У каторага з локаць насочак».

*Максім Багдановіч.*

---

М. АНТАНОЎСКІ.

# Апавяданьні цёткі Пары.

З расейскага пераклаў А. Б.

## V. Сьвечкі.

Скажы, цётачка — пытаўся Янка, — а хто схаваў агонь у сьвечку? Глядзі, як яна весела гарыць.

— Гэта справа пчолкі-бахматкі — тлумачыла Алеся, яна з красачак сабрала мёд, з яго зрабіла воск, а людзі вылілі з воску сьвечку.

— А гэта-ж як! а я думаў, што пчолкі робяць толькі адзін мёд.

Клёк-клёк, — засьмяялася вясёлая Пара, —

Алеся хоць і ня зусім, але мае слушнасьць. Ці ты калі колечы бачыў пчаліны вульлей! Гэта прыго-

жанькая хатка, каторую чалавек клапатліва ладзіць для сваей пчолкі.

Калі-б ты бачыў за працай гэту рупную маленькую працаўніцу! Вось яна садзіцца на верхняй бэльцы рамкі і пярэднямі лапкамі пачынае выцягіваць з кішані, каторая находзіцца ў яе на брушку, васковую луску. Трымаючы воск лапкамі, яна яго пераразжве, змочвае языком і прылепліваае воск да вэрхняе бэлькі рамкі.



Кішэньчыкаў з воскам у кожнай пчолкі восем і пчолкі працуюць да тае пары, пакуль усіх не апарожняць. Такім чынам пчолкі памалу збудуюць цэлую васковую сьценку. Астаецца чалавеку сабраць воск, распусьціць на агні, выліць з яго сьвечку, у каторую ён устаўляе кнот і памяшчэньне для агню ёсьць! Але, дзеткі, ваша сьвечка не васковая. Гэта праўда, — сказала Алеся — васковыя сьвечкі гараць толькі ў царкве, а гэта сьвечка стэарыновая.

— Якая жывёла яе зрабіла? — жвава падхапіў хлапец.

— Клёк-клёк! сьмяялася Пара, — на ўсенькім сьвеце няма такой пчолкі, дзетка, каторая выробляе стэарыну, яе вырабляе чалавек.

Дзеля гэтага бярэцца бычыная ці бараньняя тлустасьць, мешаецца з вадой і вапнай. Калі гэта



сумесь закіпіць, — у яе ўліваюць атрутны квас, тады на верх сумесі ўсплывае таўсты пласт тлустасьці белага коляру — гэта і ёсьць стэарына.

Для адліваньня сьвечак бяруць валавяныя трубачкі, пасярэдзіне трубкі нацягваюць кнот, сплецяны з нітак; потым уліваюць у форму растопленую стэарыну, каторая кругом аблівае кнот. Вось і яшчэ памешчаньне для агню. Скромнае, беднае памешчаньне, але агонь ня крыўдзіцца на стэарынавую сьвечку, не заўсягды-ж жыць у палацах, у багатых, прыгожых, сьветлых лямпах. Мой добры брат агонь здавольваецца ўселякім памешчаньнем, толькі-б быць карысным для людзей.

(Працяг будзе).

# Вясна.

У выш, у шыр, у даль бяз конца.
— Ўсюды сонца, сонца, сонца!
Ў сінім небе, бач высока
Ўецца белы пар аблокаў;



Быццам хусткай бела-тканай
Вішні цьветам абсыпаны.
Ўсё наўкола зеляніцца,
Песьні рвуцца над зямліцай,
Сонца, дрэвы, рунь густая, —
Ўсё вясну — красу вітае.
А вясна ідзе паволі
У зялёным руняй полі,
А вясна ідзе нясьмела,
Праз гаёк зазелянелы.
Часам сіверам павее,
Часам дробным дажджом сее,
Але ўжо як засьмяецца, —
Лепшых дзён няма, здаецца!

*Н. А.*

Ст. Грынкевіч.

# Капля вады.

Усенька драмала ані скалыхнуўшыся. Казулькі нязмоўчныя і тыя быццам заснулі, бо ніводнае ня чуваць. Яшчэ калі-ні-калі акажацца адна, другая, каб хутчэй змоўкнуць, маўляў спалохаўшыся чаго, ці так праз сон добра ня ведаючы што робяць. Каліўкі травы ціха гойдаюцца, ды так ціха, што ніхто іх і ня чуе. Усенька маўчыць, маўляў, ждучы вялікага сьвята, ці так нечага нязвычайнага.

І толькі сярод вялікае цішыні адна крынічка булькае буль... буль... буль... буль... Аднача і ейнае бульканьне сьцішное і яна датарнавалася да вялікае сугалоснасьці ўсяго жывога і мёртвага на зямлі, ждучы часіны пробудзі валадарнага гаспадара, усемагутнага, пазорнага сонка. Бо яно, адпачыўшы крыху ў сваей вялікай падарожы, апавяшчала праз сваю прасочніцу, апошнюю з зорак начных — зараніцу, што ўжо канец ночы, што дзянёк зараз пачнецца. Дык уся натура паслухмяна сьцішала, каб потым з вялікшаю хуткасьцю, шпарчэй яшчэ мітусіцца ў бязконца шмат лікіх праявах жыцьця.

Вось і глянула першая касулька. Нясьмела зірнула яна крозь хмаркі, якія стоўпіліся на тым мейсцы, быццам хочучы спыніць сонейка. Ды дзе ім уходацца з волатам, дзякуючы якому і яны самыя істнуюць. За першаю коскаю падхапіліся другія, за гэнымі яшчэ і яшчэ, а хутка і само яно пазорна зазіхацела, перамагаючы цемру. Туляняецца імгла толькі над зямлёю ды й то ўжо ў зьнямозе расьцярушваецца на малюсенечкія часьцінкі, каб за адну маленькую часіну пакінуць пераможцам сонка.

Згледзіла ўжо і зямля, што зараніца прапала за небасхілам, дык схамянулася, клічучы ўсіх, каб пакінулі дрымоту а судашалі свайго дабрачынцу.

На супольны клік зямлі і сонка адгукнулася ўсенька жывое і няжывое. Жаваранак, дык аж на грудзёх сонка, здаецца, сядзіць дзякуючы яму, а за ім

і іншыя птушкі, кожная на свой лад пяе. І трава і дрэвы зварухнуліся, гойдаючыся вясёла, пераказваюць адныя адным, што ўжо дзень. Палеткі жыта сьпелага, жоўтага, колеру медна-залатога аж дрыжаць ад шчасьця, што коскі высушаць расу, якая насела на іх. Жыта каласістае шапаціць, што не ўмагату яму было-б трываць даўжэй, бо зернята вялікія. цяжкія схіляюць стрымбуль аж да зямлі. Пара яму ўжо ў адрыну, пара вялікая. Толькі і глядзі, што зернятка ня схоча сядзець у каласку і безкарысна прападзе на зямлі.

Сонка добры гаспадар. Яно рупіцца, каб кожная работа ішла сваім чарадом. Пад яго вокам жытка пачало расьці, потым рунела, расовала, зерня набірала і наспевала. Цяпер сачыць яно і за тым, каб супольнае дзейства ягонае і зямлі ня было безкарысным, дык прынукае людзей, каб тыя не забыліся, што пара на поле з сярпамі і касамі. Касулькі будзяць людзей і тых, што спалі па хатах і тых, што ўцяклі ад паркасці на панадворак.

Доўга ня трэ было ўвячаваць. Вёска, толькі што драмаўшая, заварушылася. Далёка чутны гаман людзей ад хатаў, студняў; дым з комінаў сведкаю, што ґаспадыні ўвіхаюцца каля стравы, каб работнікаў ў поле выпраўляць. На панадворках лёскат ляціць ад косаў, кляпаць якія ўзяліся мужчыны. Яшчэ крышку і веска парожняя, кожны каля сваго загончыка. Хто зажынае, а хто зажаў перадом, дык не аглядаючыся давай за работу. Хто сярпом, хто касою і жмені сьцелюцца а з іх снапы растуць ззаду і яшчэ як след раса не абсохла, калі шмат дзесятак стаяла на палетках.

(Працяг будзе).

# Чым цыган жыве.

(Украінскі народны жарт).

Ехаў сабе раз пан. Аж тут едзе дарогаю стары цыган з сынам. Пан затрымаў коні і распачаў з цыганом гутарку.

— Чым ты, цыган жывеш?—пытаецца пан.

— А чым бы, паночку, туманом.

— Як гэта туманом?

— Ды так—кажа цыган—туманом.

— А--ну пакажы мне, які гэта ў цябе той туман! Я хачу яго бачыць!

Га, кажа цыган, — калі-ж я яго ў хаце пакінуў. Вось, каб вы, паночку, далі каня, то мой хлапец паехаў-бы ды прывёз.

Сказаў пан выпрагчы каня. Сеў на яго цыганчук ды паехаў. Як ад'ехай ён ужо так далёка, што яго і відаць ня было, памацаў стары цыган кішэню ды кажа:

— Ой, паночку! То-ж я забыўся хлапчуку ключа даць. Бяз ключа ня знайдзе. Шкада дарогі. Вось, каб вы пазволілі ўзяць другога каня — я-б дагнаў хлапца і даў яму ключ.

— Сказаў пан выпрагаць другога каня.

Сеў цыган ды паехаў, а як ад'ехаў ужо вялікі кусок дарогі, абярнуўся да пана і яго хурмана і крыкнуў ім:

— А вы там даўжэй не чакайце — самі цягніце, самі пхайце!

І з канём прапаў.

*Пераклала З. Верас.*



# Добрая дачка.

Матка паслала Марысю з яечкамі ў двор. Вярнуўшыся адтуль, дзяўчынка аддала матцы грошы і кажа: — „Ах, мамка! што я бачыла! У дварэ на ганку сядзела паненка і гуляла з лялькай, падобнай зусім да малога дзіцяці! Гэтая лялька зачыняе і адчыняе вочы і мае праўдзівыя валасы“.

„Так, — адказала маці, паны маюць грошы, ды могуць купляць сваім дзеткам дарагія цацкі“.

— «А колькі каштуе гэткая лялька?» спытала Марыся.

„Мо з дзесяць залатовак“ адказала матка.

Пачала Марыся прасіць, каб маці дазволіла ёй зарабіць сабе грошы і купіць ляльку. Яна ўжо ўмела прасьці і ведала як ахвотна купляе крамар у селянак тонкае прадзіва. Засьмяялася маці: — «Але-ж ты, Марыся, прадзеш яшчэ зусім дрэнна! Твайго прадзіва крамар нат' купляць не захоча“.

Марыся адказала: — Дагэтуль, мамка, я ня рупілася, каб добра прасьці, але-ж цяпер хачу зарабіць на ляльку, дык буду старацца“.

Маці дазволіла і Марыся так пільна прала, што хутка яе пража выходзіла роўная і тонкая, крамар купляў яе ахвотна і да вясны зарабіла яна аж 15 залатовак.

На Юр'я паехала Марыся з дзядзькам Пятром у места на кірмаш. — Чаго—чаго толькі ня было на гэтым кірмашы! Аж вочы разьбегаліся... Але-ж Марыся ішла проста да столікаў дзе прадаваліся лялькі. Па дарозе, аднакаж, заўважыла яна, як нейкая жанчына купляла сабе вялікую, цёплую, пекную хустку.

— „Вось-бы мамцы гэткая хустка прыдалася” падумала Марыся, але ўсё-ж такі пашла далей.

Ляльку яна знашла хутка, ды і такую самую як ў паненкі з двара. Гандлярка прасіла за яе 12-ць злотых. Доўга глядзела дзяўчынка на ляльку, лічыла грошы, думала, аж раптам адвярнулася і пашла назад. Пашла цяпер проста дзе прадаваліся хусткі. Купіла для маткі прыгожую хустку ў чорныя і чыр-

воныя краты. Пасьля дзядзька памог ёй купіць шапку для бацькі, і яшчэ асталося ў яе пару залатовак. — Што-ж бы купіць за іх—думала Марыся. Ўспомніўшы свайго маленькага брата, Васілька, купіла яна яму драўлянага коніка, цукеркаў, пернікаў, і вясёлая, радасная варочалася дамоў.

Прыехаўшы, Марыся хутка ўбегла ў хату, дзе бацькі і брат сядзелі ля стала і вячэралі.

«А, ну! пакажы сваю ляльку!» сказаў бацька.

Замест адказаць, Марыся надзела бацьку на галаву новую шапку, матцы накінула на плечы хустку, а Васільку падала коніка і высыпала перад ім на стол купляныя прысмакі.

„Што гэта?“ — крыкнулі зьдзіўленыя бацькі.

Марыся адказала: «Завялікая я ўжо, каб гуляць з лялькаю. Ляпей буду працаваць, ды буду Вам карыснай».

З якой вялікай радасьцю абымалі ды палавалі сваю добрую дачку шчасьлівыя бацькі!

*Бабка Аўгуста.*

# Працы нашых чытачоў.

### Як за добрае плацяць.

(*Народная казка*).

Ішоў чалавек дарогай, глядзіць аж ляжыць вялікі камень, а пад ім прыцісьнены вуж. Пашкадаваў чалавек вужа, узяў кол, падважыў камень і выпусьціў яго, а сам пашоў куды яму трэба.

Ідзе і чуе, што нешта халоднае абкруцілася каля шыі і душыць. Дагадаўся чалавек, што гэта вуж і пытаецца: што ты робіш?

— Ты мяне выратаваў, а я цябе задушу — адказвае вуж.

— Ня душы, няхай хто рассудзіць гэтую справу.

Вуж згадзіўся.

Ідуць яны далей аж бачаць сядзіць стары сівы сабака на полі. Падходзяць яны да яго і кажуць: Рассудзі нам нашу справу.

— Якую?

— Я яго выратаваў, а ён хоча мяне задушыць.

— Душы — кажа сабака — няма праўды на сьвеце: Як я быў малады, сьцярог дому, дык мяне кармілі і даглядалі, а цяпер, як састарэў, дык выгналі мяне на поля.

Ідуць яны далей і відзяць ходзіць конь на полі.

Чалавек кажа: рассудзі нам нашу справу.

— Што такое? — пытаецца конь.

— Так і так, — кажа чалавек.

— Душы — кажа конь, — няма праўды на сьвеце. Як я быў малады, працаваў, дык мяне мылі, часалі яшчэ і аброк давалі, а цяпер, як састарэў, выгналі мяне на поле і не маю дзе дзецца.



— Ня душы — просіцца чалавек — я пакрыўджаны, няхай нас хто трэцьці рассудзіць.

Ідуць далей і спатыкаюць лісіцу.

— Рассудзі нам нашу справу — просіць чалавек.

— У чым справа? — пытаецца лісіца.

— Так і так, — кажа чалавек.

— Я-ж ня бачыла як вуж там ляжаў. Пойдзем да каменя і няхай вуж пакажа.

Прышлі на тое мейсца лісіца і кажа: паднімі чалавеча камень, а ты вуж, лезь пад камень і пакажы як ты ляжаў.

Падняў чалавек камень, вуж падлез, а лісіца міргае на чалавека: пускай, пускай.

Чалавек пусьціў камень, каторы прыціснуў вужа.

— За тое што я цябе выратаваў, ты будзеш мне даваць штодня па курыцы.

— Добра — згадзіўся чалавек.

Прышла адзін дзень даў курыцу, прышла на другі даў, на трэцьці даў, а на чацьверты жонка кажа: —

на што ты будзеш даваць, — вазьмі стрэльбу ды забі і будзе каўнер або грошы. Так ён і зрабіў.

Дык вось як за добрае цяперашні сьвет плаціць.

Запісала *Зоня Войцічышка.*
10 гадоў, з вёскі Вярэнькі, Дзісьненскага павету.

---

## Скупы жыд.

(*Народнае апавяданьне*).

Адзін жыд пашоў да фрызьера галіцца. Запытаўся сколькі ён бярэць, дык фрызьер сказаў: пяць капеяк. Тады жыд кажыць: можа пан за чатыры абголіш. Фрызьер кажа: добра.

Пачакаўшы троху, жыд кажыць: а можа пан за тры ці і за дзьве капейкі абголіш? Той згадзіўся і ўжо бярэцца галіць. А жыд узноў: як відаць пан такі добры, можа-б мяне і за капейку абгаліў. Фрызьер і на гэта згадзіўся. Узяў тупую брытву і як пацягніць жыду па барадзе, дык той і ўседзіць ня можа, паднімаецца, стогне: ухх... ссс... Як абгаліў палавіну, стаў брытву вастрыць. Жыд з радасьці, што ён кінуў яго галіць— уцёк з хаты з палавінай абголенай барады, а палавінай не.

Ідучы жыд спаткаўся з нейкім панам, каторы вёў сабаку. Жыд пытае пана: Куды пан вядзеш гэтага сабаку?

— Страляць — адказвае пан.

— Пане, там дарага захочуць. Вядзі лепш да фрызьера ў гэты дом, там за капейку голіць, дык пану сабаку гэтага як абголіць, дык далі-бог здохніць.

Запісаў *Стэфусь Войцік*
в. Вярэнькі, пав. Дзісьненскі.

# Шчодры.

Хлапчук дастаў ад мамы яблыка ды зараз пачаў яго есьці.—Цётка пытаецца ў яго: «А мне кусочак дасі».—Ведаеце што, цётачка, кажа хлапец, я дам вам зярняткі. Вы іх сабе пасеяце і будзяце мець шмат, шмат яблычкаў.

# ЗАГАДКІ.

**Воўк, каза і капуста.** Селяніну трэба перавязьці цераз раку ваўка, казу і капусту. Алеж ён мае такую малую лодку, што у ёй можа памясьціцца апроч яго самога або адзін воўк, або адна каза, або адна капуста. Калі пакінуць ваўка з казой, то воўк зьесьць казу, а калі пакінуць казу з капустай, то каза зьесьць капусту. Як іх селянін перавёз?

---

1) Што можа гудзець мацней, чым адзін млын?
2) У каго самая найбольшая шапка?
3) Якім грэбням не расчэшашся?

---

## КРУЦІГАЛОЎКА СА СКЛАДОЎ.

З пададзеных ніжэй складоў зложыць 6 слоў, якіх пачатковыя літары чытаныя з гары ў ніз дадуць названьне старадаўнага беларускага места.

**Склады:** Уз-на-бін-ца-кан-лу-ка-ні-драт-мя-ба-це-са-аш-дзя-рук-ця.

**Значэньне слоў:** 1) Хатняя жывёліна. 2) Гаспадарская расьліна. 3) Частка запражкі на каня. 4) Птушка. 5) Павятовае места ў заходняй Беларусі. 6) Мужчынская імя.

---

## РАЗГАДКІ ЗАГАДАК З КНІЖКІ 2-ой.

1) **Прыказка.** У каго ёсьць матка, ў таго галоўка гладка.

2) **Рассыпанка.** Канстанцыя Буйлянка.

3) Адно з дзяцей бярэ яблык разам з кошыкам.

4) У пакоі ўсяго чатыры каты.

---

Добрую разьвязку загадкі (1-ай прыказкі) прыслаў *Янка Патаповіч* з в. Рачканы.